

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№90 (1107) 17 мая 1995 г. Серада. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 541000 экз. | Кошт у розніцу — 450 руб.


## Удзельнікам Дзён культуры Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь

Дарагія таварышы!

З сардэчнай цеплынёй і задавальненнем рад вітаць на беларускай зямлі выдатных прадстаўнікоў культуры і мастацтва Расійскай Федэрацыі.

Кроўнае брацтва, дружба, сардэчныя адносіны, якія даўно і моцна звязалі народы нашых краін, маюць пад сабой глыбокія гістарычныя карані, добрыя традыцыі, якімі ўсе мы ганарымся і высока цэнім.

Прыемна і радасна ўсведамляць, што ў сённяшні цяжкі час нашы ўзаемаадносіны ўмацоўваюцца і развіваюцца, адкрываюць новую прастору для далейшых дзелавых і цесных кантактаў ва ўсіх сферах дзейнасці.

Цяперашняе свята культуры і мастацтва Расійскай Федэрацыі ў нашай рэспубліцы з'яўляецца яшчэ адным яскравым сведчаннем нашых традыцыйных добрасуседскіх адносін. Упэўнены, што гэта свята стане новай жыватворнай крыніцай для ўзаемнага ўзбагачэння і развіцця брацкіх славянскіх культур, для шырокага абмену культурнымі і мастацкімі каштоўнасцямі.

Жадаю ўдзельнікам Дзён культуры вялікіх творчых поспехаў ва ўсіх справах на карысць узаемаразумення, дружбы і духоўнага аб'яднання нашых народаў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**




## Вкратце

***Китай готов прекратить испытания ядерного оружия, сообщил журналистам министр обороны России Павел Грачев в Пекине после переговоров с руководителем китайского военного ведомства Чи Хаотянем.***

❑

***Курс российского рубля по отношению к американскому доллару на торгах ММВБ в Москве вырос на 30 пунктов по сравнению с торгами в понедельник и составил 5026 рублей за один доллар.***

❑

***В мае инфляция в Беларуси не превысит 10 процентов. Об этом заявил в Минске председатель Кабинета Министров республики Михаил Чигирь.***

Касаясь итогов недавнего визита в Минск делегации МВФ, он отметил, что представители фонда признали положительными результаты работы правительства республики в области управления бюджетом и проведения денежно-кредитной политики. В то же время эксперты сочли "недостаточно успешным" ход приватизации госсобственности.

❑

***Сторожевые корабли, патрульные самолеты и вертолеты российской погранслужбы будут вести "огонь на поражение" по иностранным судам, незаконно вторгшимся в территориальные воды Российской Федерации, не реагирующим на предупредительные сигналы.***

❑

***В литовском городе Каунасе состоялось открытие центра информации Чечни, представляющего интересы Джохара Дудаева и его сторонников.***

Во время церемонии открытия было отмечено, что Каунас должен породниться с Грозным.

❑

***Матрос срочной службы Макаров с эсминца "Бесстрашный" Северного флота, заходившего в Норвегию, в понедельник покончил жизнь самоубийством в норвежском порту Осло.***

Несколько дней назад этот матрос и его товарищ по прибытии "Бесстрашного" в Осло обратились к властям Норвегии с просьбой предоставить им политическое убежище.

### О чем не сказала Элизабет Шройдер?

***Вчера в полдень группа журналистов ведущих республиканских изданий собралась в парламенте, чтобы встретиться с руководителем делегации Европарламента по связям с Республикой Беларусь госпожой Элизабет Шройдер. Кстати, по ее просьбе...***

Прождав более получаса, так и не выяснив причины задержки (или опоздания) г-жи Шройдер, журналисты были вынуждены разойтись по своим редакциям. Интересно все же было бы узнать, что хотела передать СМИ и что услышать от них высокая гостья. Надо полагать, после первого тура выборов и референдума у наблюдателей из Европы появились некоторые вопросы...

**Виктор ЧЕРНУШЕНКО.**

### Неделя борьбы с огнем

***За прошедшую неделю в республике произошло 259 пожаров, ущерб от которых составил 837,8 миллиона рублей.***

В огне погибли 6 человек. Уничтожены и повреждены 180 строений, 7 голов скота, 31 тонна грубых кормов, 12 единиц техники.

**Татьяна ЗАГВОЗДКИНА.**

### Зарплата или отставка — выбирай, директор

***Вчера на гомельском заводе "Электроаппаратура" у проходной возник стихийный митинг по поводу задержки заработной платы за март и апрель.***

Возмущенные рабочие потребовали к себе руководителей завода. События перенеслись в актовый зал. Усевшихся было за стол президиума директора завода Д.Темчика, главного инженера В.Жигаря, председателя профкома Л.Гончарову собрание отправило в партер. Избран был рабочий президиум из семи человек.

Объяснения собранию давал директор предприятия Д.Темчик. Тяжелое финансовое положение на заводе, приведшее к невыплате людям денег, он объяснял непосильными налогами, отсутствием рынка сбыта продукции.

Досталось "на орехи" главному инженеру за слабое внедрение на заводе перспективных видов продукции.

Собрание потребовало от руководителей завода обеспечить до 20 мая с.г. выплату заработной платы. В противном случае будет поставлен вопрос об отставке первых руководителей предприятия.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

### Равные права и равные возможности?

***В столице Беларуси Минске — городе с более чем полуторамиллионным населением сегодня нет ни одной школы с преподаванием на белорусском языке.***

В 37 школах белорусской столицы преподавание осуществляется на русском языке, в остальных идет процесс постепенного перехода на смешанное обучение на двух языках — русском и белорусском.

**Ян ВЕРБА.**

### По свету с песней

***В Беларуси гастролировал хор университета Бригема Янга, одного из крупнейших высших учебных заведений США. Выступления прошли в концертном зале Белорусской государственной филармонии и музыкальном лицее г.Молодечно.***

В репертуаре хора были представлены практически все жанры вокальной музыки: произведения классики, народные баллады, спиричуэлсы, мадригалы Возрождения, бродвейские мюзиклы. Пребывание этого хорошо известного в США и за их пределами хорового коллектива в Беларуси является началом гастрольной поездки, маршрут которой будет также включать Россию, Эстонию, Литву и Латвию.

Хор университета уже гастролировал в России, Румынии, Венгрии, Польше, Австрии, Германии, Швейцарии, Бельгии, Италии, Израиле, Египте и Иордании.

### Спорт-экспресс

Женская сборная Беларуси по футболу впервые примет участие в чемпионате Европы. Во втором дивизионе соперницами по группе у белорусских футболисток будут команды Чехии, Эстонии и Польши.

❑

В Бирмингеме завершился чемпионат Европы по дзюдо. В белорусской команде лишь Натик Багиров (весовая категория до 60 кг) завоевал призовую награду — бронзовую медаль.

❑

Состоялись четыре матча 23-го тура чемпионата Беларуси по футболу. Их результаты: "Ведрич" — "Бобруйск" — 2:0, "Динамо-93" — "Томсельмаш" — 1:0, "Локомотив" — "Шинник" — 0:0, "Молодечно" — "Динамо" /Бр/ — 1:0.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, РИД.**

Фотаконкурс фірмы "Дайнова" і "Народнай газеты" "ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ"



❑ *Жыві, Беларусь!*





Фотанавела Віктара ЖЫЛІНА.

## Пад чырвона-зялёным сцягам да чырвонага парламента?

**Андрэй НІКОЛЬСКІ**

У палітычным асяроддзі няма зараз больш займальнай тэмы, чым вынікі першага тура выбараў. Прэтэндэнтаў стала значна менш. Да лепшых часоў вымушаны пакінуць свае спадзяванні адыёзныя асобы Віктар Чыкін, Сяргей Гайдукевіч, Генадзь Данілаў, пазбаўленыя пасад генералы Генадзь Лавіцкі, Павел Казлоўскі, Яўген Бачароў, Пётр Чаус, у мінулым міністр унутраных спраў, Віктар Піскароў. Не ўдалося прыкурыць ад "парламенцкага сонца" многім журналістам. Прычым пацярпелі паражэнне і быццам бы асуджаныя на поспех апальныя былыя рэдактары Ігар Асінскі і Іосіф Сярэдзіч... Іх імёны былі колькі месяцаў на слыху, але папулярнасць, асабліва для вяскоўцаў, відаць, слабы аргумент.

Наогул у вёсцы, мяркуючы па першых выніках, — туга па былым. У першай групе, няхай сабе яна і невялікая, лідэрамі сталі кіраўнікі гаспадарак. У аграрных раёнах паслухмяна прагаласавалі за мясцовых лідэраў. Мне давялося слухаць па мясцоваму радыё такіх прамоўцаў — кандыдатаў ад Аграрнай партыі. Дзядзькі чыталі па гатоваму тэксту адны і тыя ж словы, зразумела, напісаныя нейкім штатным ідыёлагам.

Добра ведаю і многіх старшынь, што заканчваюць зараз дэпутацкі тэрмін. Большасць з іх добра ведае вытворчасць. Але ж парламент — не семінар па абмену вопытам. У ім патрабуецца ўменне многа чытаць, удумліва аналізаваць і мудра пісаць тэксты законаў. Прайшлі тыя часы, калі дэпутат як пасол раёна выбіваў нарады на аўтамабілі, запчасткі, угнаенні, дэфіцытныя тавары з дапамогай добрай чаркі і смачнай шкваркі.

Мы таму і незадаволены сваім Вярхоўным Саветам, што ён прымаў не самыя лепшыя законы.

Выходзіць, усё пачнецца нанава, бо аб уменні ствараць законы выбаршчыкі амаль не ўспамінаюць.

Нягледзячы на тое, што ў адной з выбарчых акруг у другі тур выйшлі прадстаўнік капіталу Клімаў і прадстаўнік камуністаў Сторажаў, можна зрабіць папярэдні прагноз, што агітатары за сумна вядомую "светлую будучыню" знаходзяць большы рэзананс у людзей, чым багатыя прадпрымальнікі. У другі тур прайшлі 170 чалавек ад ПКБ — гэта складае прыкладна 75 працэнтаў ад колькасці вылучаных гэтай партыяй. Аднаго працэнта галасоў не хапіла, каб стаць дэпутатам пасля першага тура, у родным Аршанскім раёне экс-кандыдату на прэзідэнцкае крэсла В.Новікаву, вядомаму сваімі фанатычна камуністычнымі поглядамі. Доктар сацыялагічных навук І.Катляроў, ад прагнозаў якога заўсёды патыхала больш ідыялогіяй, чым навукай, таксама выйшаў у другі тур.

Спадары дэмакраты вымушаны залізваць сур'ёзныя раны: толькі 44 прадстаўнікі БНФ і 8 чалавек ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі А.Дабравольскага выйшлі ў другі тур.

Партыя народнай згоды пакуль што не прааналізавала вынікаў першага этапу. Вядома, што адзін з яе актыўных членаў Пётр Жушма стаў дэпутатам, а вось лідэру Генадзю Карпенку прыйдзецца цяжка ў барацьбе з начальнікам райаддзела ўнутраных спраў.

Як паведамляе наш уласны карэспандэнт з Віцебска Сяргей Буткевіч, можна смела меркаваць, што ўдзельнікамі выбараў былі пераважна людзі пажылыя, не вельмі давяраючыя моладзі. І таму відавочна, што выбаршчыкі, якія не паленаваліся ў свае гады прыйсці на ўчасткі, галасавалі не за канкрэтных асоб (якіх яны толкам і пазнаць не маглі за такі кароткі час), а за пэўную палітычную платформу, дакладней — за вяртанне да мінулага, калі бязмежнае панаванне кампартыі не выклікала сумненняў у заўтрашнім курсе рубля. Гэтая настальгія па былым і дапамагла кандыдатам у дэпутаты з камуністычнымі лозунгамі вырвацца наперад, значна абагнаўшы дэмакратаў і нават цэнтрыстаў.

## Бастуе камвольны кабінат

**Віктар ХАРОШКА**

Па сённяшні дзень многія з рабочых акцыянернага таварыства "Мінскі камвольны камбінат" не атрымалі зарплату за сакавік. Не зарплату нават, капейкі. Працуюць жа ўсяго 1—2 дні ў тыдзень. Няма сыравіны, дрэнна арганізавана вытворчасць.

Усё гэта і прывяло да таго, што выпуск прадукцыі скараціўся ў параўнанні з мінулым годам у 2,5 раза.

Няма ў касе грошай. А таму зарплату, а дакладней, 40 працэнтаў яе, аддаюць тканінай. Астатнюю частку яшчэ не вырашылі — чым. Ці грашыма, ці таварамі.

Але больш за ўсё засмуціла людзей іншая акалічнасць. У адчай прывяло рашэнне адміністрацыі спыніць вытворчасць ледзь не на паўгода. Рабочым жа паабяцалі выплачваць у месяц па мінімальнай зарплаце.

Незадаволенасць учора перарасла ў стыхійны сход, які адбыўся ў Палацы культуры камбіната, зала якога ледзь умясціла ўсіх жадаючых. Бо сабралася іх больш 1200 чалавек (трэцяя частка калектыву).

Чаго ж патрабуюць тэкстыльшчыкі? Па-першае, каб ім зарплату выдавалі два разы ў месяц. Каб адміністрацыя атрымлівала не аклады, а заробак ад працэнта рэалізаванай прадукцыі. Каб непахісна выконваўся калектыўны дагавор.

Па-другое, людзі выказалі недавер кіраўніку прадпрыемства і старшыні прафкама, якія не абараняе інтарэсы рабочых.

Падчас сходу створаны забастовачны камітэт, які будзе каардынаваць дзеянні тэкстыльшчыкаў і сачыць за развіццём падзей.

Баставаць рабочыя маюць намер да таго часу, пакуль не будуць задаволены іх патрабаванні.

Ідзе падпіска




ШАНОЎНЫЯ МІНЧАНЕ!

**З 15 па 20 мая ў аддзяленнях сувязі г. Мінска праводзіцца "Тыдзень падпіскі" па паніжаных цэнах на III квартал 1995 года.**

**У гэтыя дні "Народную газету" можна выпісаць на месяц амаль на 4 тысячы рублёў танней, а на квартал па г.Мінску падпіска будзе каштаваць 48 тысяч рублёў (удакладняем) замест 57 тысяч.**

## Славянскае адзінства моцнае ў народзе

Другі дзень свайго знаходжання з афіцыйным візітам у Беларусі міністр замежных спраў Украіны Генадзь Удавенка пачаў з сустрэчы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром. У час гутаркі абодва бакі з задавальненнем канстатавалі рост дзелавых кантактаў паміж дзяржавамі, узаемную зацікаўленасць у актыўным супрацоўніцтве як на палітычным, так і на эканамічным узроўнях.

Потым кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Украіны быў прыняты Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Кіраўнік дзяржавы расказаў госцю аб папярэдніх выніках праведзеных 14 мая выбараў у Вярхоўны Савет краіны і галасаванні па чатырох пытаннях рэферэндуму. Ён падкрэсліў, што гэта было першае ў рэспубліцы па-сапраўднаму дэмакратычнае волевыяўленне выбаршчыкаў.

— Вынікі праведзенага рэферэндуму зноў пацвердзілі імкненне людзей да славянскага яднання, — заявіў Аляксандр Лукашэнка. — І што асабліва важна для мяне, паказалі: Прэзідэнт праводзіць у жыццё тую палітыку, якая адпавядае інтарэсам народа.

Пасля заканчэння сустрэчы кіраўнік дзяржавы сказаў журналістам, што з міністрам замежных спраў Украіны ў яго адбылася вельмі шчырая гутарка. У ходзе яе Генадзю Удавенку было растлумачана, што Беларусь лічыць двухбаковыя адносіны з Украінай такімі ж важнымі, як і з Расіяй.

— Без цеснай інтэграцыі з Украінай не ўяўляю сабе славянскага міру, — адзначыў А.Лукашэнка. — Нашы краіны заўсёды былі і застаюцца добрымі суседзямі і надзейнымі партнёрамі. З вялікім нецярпеннем чакаю афіцыйнага візіту ў Беларусь Прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы, што пройдзе, я спадзяюся, у бліжэйшай будучыні.

У той жа дзень Генадзь Удавенка сустрэўся з выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэняй. Размова ішла аб маючай адбыцца мінскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў краін СНД, парадку дня саміта і перспектывах развіцця супрацоўніцтва краін Садружнасці.

Вынікам двухдзённай работы ўкраінскай дэлегацыі ў беларускай сталіцы была прысвечана прэс-канферэнцыя для журналістаў, якая праходзіла ў Нацыянальным прэс-цэнтры. Міністр замежных спраў Украіны Генадзь Удавенка і яго беларускі калега Уладзімір Сянько, якія прымалі ўдзел у сустрэчы з журналістамі, асабліва адзначылі прадукцыйнасць праведзеных з кіраўніцтвам Беларусі сустрэч. Паводле агульнай думкі, галоўным вынікам праведзенага візіту стала парафіраванне дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Украінай. На сённяшні дзень падрыхтавана 40 пагадненняў паміж нашымі дзяржавамі і ў стадыі распрацоўкі знаходзяцца яшчэ 14 дакументаў.

Асаблівая ўвага на прэс-канферэнцыі была ўдзелена пытанню аб граніцы паміж дзвюма краінамі. Уладзімір Сянько праінфармаваў прысутных аб тым, што цяпер адпаведны дагавор знаходзіцца на завяршальнай стадыі. На яго думку, вельмі важным з'яўляецца адсутнасць якіх бы там ні было тэрытарыяльных прэтэнзій паміж Беларуссю і Украінай. Што ж датычыцца мытняў, то кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства падкрэсліў, што пытанне аб іх ліквідацыі ў бліжэйшы час вырашацца не будзе. "Тым не менш, я лічу, што іх існаванне ні ў якай меры не будзе перашкаджаць умацаванню і паглыбленню ўзаемавыгадных двухбаковых адносін паміж нашымі дзяржавамі", — сказаў у заключэнне Уладзімір Сянько.

**Валянціна МЕНШЫКАВА,**
**Ігар РУБАН.**
**Белінфарм.**

Подробности

## Как я выжил, будем знать только мы с тобой

**Василий САРЫЧЕВ, собственный корреспондент по Брестской области**

Такого легендарная крепость еще не знала. Впервые с грозного сорок первого людям было здесь по-настоящему страшно.

Их собралось более пятидесяти тысяч — нарядных брестчан, решивших почтить своим участием светлый праздник Победы. 9 мая часов с пяти-шести вечера истосковавшийся по истинным праздникам народ бесконечной вереницей потянулся в направлении цитадели.

На 21.00 здесь был объявлен концерт-реквием, но увидеть что-либо в этой невообразимой толчее, как и просто пробраться поближе к месту действия на площади Церемониалов, оказалось делом почти безнадежным. Благо, концерт длился всего час, и люди терпеливо ждали салюта. Радостные бабули волокли тем временем в направлении выхода полные мешки стеклотары.

Салют пришел, скоротечно отгремев под счастливое "ура" многоцветными раскатами. И тогда грянуло другое...

Сейчас ответственные за проведение торжества лица сетуют на непредсказуемость случившегося. Полноте! Предусмотреть можно было все. И последствия "фронтовых ста грамм", буквально рекой лившихся на подступах и в самой крепости. И узость мостка через рукав Мухавца. И женские шпильки-каблучки, и детей, и заторы. И даже пьяные выходки молодых "волчат".

А случилось вот что. Почти сразу по окончании салюта рачительные хозяева отключили в крепости верхнее освещение. В почти полной темноте, топча соседние ноги и давя один одного, люди всесметающей толпой двинулись к выходу. Бывавший в крепости знает, что площадь Церемониалов отделяют от служащего главным входом монумента "Звезда" добрых метров четыреста. А для начала людской массе предстояло преодолеть пешеходный мост через реку, в который надо было еще вписаться...

Это была дорога в ад. В голос плакали дети, женщины проваливались каблуками в тщательно выполотые расщелины между плитами мостовой, бросая обувь, чтобы не потерять большее. А навстречу то здесь, то там двигались стаи искавших приключений юнцов — не утруждаясь разбором, они с разбегу врезались в толпу, затевая суматоху.

Самое страшное происходило под "Звездой", люди спотыкались, цеплялись за соседей, чтобы не быть затоптанными, задние напирали... Вдруг покатился слух, что впереди обвал, народ в ужасе шарахнулся, пошла давка...

Пролилось же в этот праздник слез! Голосили матери, часами разыскивая потерянных ребятишек — их, всмерть перепуганных, до половины четвертого собирала по канавам и валам милиция, 29 человек не смогли добраться домой без медицинской помощи, восьмерых (из них половина — дети) пришлось госпитализировать. Сдавление грудной клетки, перелом ключицы, конечностей, черепно-мозговая травма — такие вот диагнозы принесла символизировавшая мир акция.

Но и выбравшиеся из страшной "Звезды" до самого порога не чувствовали себя в безопасности. За пределами крепости пьяные юнцы бесчинствовали с неменьшей безнаказанностью. Улица Московская стала зоной драк и избиений, где зацепить могли без повода и любого. Мешки обуви, вынесенные наутро из крепости, стали восприниматься владельцами потерей добрые сутки спустя — в ту ночь людям хотелось просто уцелеть.

Через день после случившегося очнувшаяся от шока власть разбирала, кого лучше снять с должности. Сошлись на директоре мемориала, порекомендовав также УВД провести собственное служебное расследование. Но милицейские чины уже заявили об отсутствии со своей стороны каких-либо просчетов. Как, впрочем, и другие — в отношении себя — службы. Благо, хоть мэр города догадался через радио и печать принести горожанам извинения за омраченный праздник.

Мы-то что. И не такое прощали.

*г.Брест.*

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Уладзімір СЯНЬКО: "У зближэнні з Расіяй пагрозы беларускай дзяржаўнасці няма"

Пасля перагавораў з міністрам замежных спраў Украіны Генадзем Удавенкам і цырымоніі парафіравання Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Украінай міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько адказаў на пытанні журналістаў, якія датычыліся праведзеных выбараў і прыярытэтаў у знешняй палітыцы дзяржавы.

Паводле слоў міністра, няма нічога дзіўнага ў тым, што ў выніку галасавання выбрана толькі 18 дэпутатаў у Вярхоўны Савет Беларусі. "Існуючая на выбарчых участках "маляўнічая мазаіка" ў колькасных адносінах можа пахіснуць практычна любога чалавека. У нас не прывыклі галасаваць па мажарытарнай сістэме і выбіраць аднаго з многіх", — сказаў ён. На пытанне ўкраінскага журналіста, ці можа аказацца, што Беларусь застанецца без парламента, кіраўнік знешнепалітычнага ведамства адзначыў: "Гіпатэтычна усё магчыма. Драмы ў гэтым не будзе, але па вялікаму рахунку парламент нам неабходны. Таму што адсутнасць заканадаўчай улады негатыўна адаб'ецца як на ўнутранай, так і на знешняй палітыцы нашай дзяржавы".

Пацвердзіўшы распаўсюджаную ў апошні час у многіх палітычных колах думку аб палітычным "дрэйфе" Беларусі ў знешняй палітыцы ў бок Расіі, Уладзімір Сянько падкрэсліў, што ў пытанні эканамічнага зближэння з усходнім суседам галоўным з'яўляецца захаванне суверэнітэту Беларусі. Міністр перакананы, што ў зближэнні з Расіяй ніякай пагрозы беларускай дзяржаўнасці няма.

**Ігар РУБАН, Белінфарм.**

Паэзія — госця нябесная

***Артур ВОЛЬСКІ***

## Праводзіны ў вечнае плаванне

*Памяці Васіля Новікава, майго аднагодка і флоцкага пабраціма*

Ані лекаў.
Ані болю.
Дагарэла свечка.
Над табою —
нізкай столлю —
дамавіны вечка.

Трубы граюць
не на ўцеху:
у дошкі дамавіны
малаток грыміць,
як рэха
даўняй страляніны.

Білі ў лоб нам самураі
з агнявое кропкі.
І пад тым
пякельным граем
да крутое сопкі
ты,
марак,
павёў пяхоту —
юнакоў бязвусых.
Захлынуцца кулямёты
наш дэсант прымусіў...

Дзе Амур?
Уцёсы?
Плёсы?
Ты маўчыш.
Ні слова.
Дзецюкі,
нібы матросы,
аддаюць швартовы.

Не спрачацца
ты адчаліў
з хваляю сустрэчнай,
з ветэранскага шпіталю —
ў плаванне.
Навечна.

Дружа любы...
Браце мілы...
Дарагі Васілю...
Хоць усе збіраю сілы,
слёзы не асілю.

Кожны дзень жыцця —
не ў лішак.
У бяздонным горы
асушу да дна кілішак
за таго,
хто ў моры.

## Поэзия, которая переживет этот век

***Издательство "Полифакт" готовится на днях выпустить второй том из серии "Итоги века".***

Книга, в которую войдут лучшие поэтические произведения классики XX столетия, называется "Строфы века". В сборнике представлены не столько сведения об авторах, сколько стихи как таковые. Ведь многие из них существуют в памяти в некотором отрыве от личности поэта, их писавшего. Составил том Евгений Евтушенко. На 64 страницах книги будут размещены иллюстрации знаменитых художников уходящего века.

**Александр КАЗАК.**

СВОБОДНАЯ ТРИБУНА

# Непадно что-то в прокурорском "королевстве"

**Виталий ЗАРЕЦКИЙ, начальник отдела прокуратуры Витебской области**

В памфлете "Письмо француженки" на современную ему Россию историк В.Ключевский писал: "Здесь никто ничем не руководит и никто не знает, что он делает и что выйдет из его деятельности; здесь все только плывет по течению, и никто не оглядывается на то, что было, не заглядывает в то, что будет... Здесь господствует странная мысль, что управление государственными делами избавляет от обязанности знать их. Один сановник наивно признался: зачем мне знать, что и как делается, когда я имею власть все сделать? Знать это нужно тому, у кого есть дела, но нет власти, — нужно крестьянину, купцу, моему приказчику, моему секретарю; а у меня нет дел, но есть власть. Зачем мне знать, что делается, когда мне достаточно приказать, чтобы сделалось то, что я желаю". Вот по такому принципу, по-моему, у нас, в Беларуси, сегодня работает прокуратура...

Мудрость руководителя состоит не в том, чтобы приказывать, руководствуясь только своим желанием, подобно вышеупомянутому сановнику, а в умении и охоте использовать знания и опыт всех, кто их имеет. Любой закон, как и любое управленческое решение, должен начинаться с изучения возможных последствий его применения, чтобы исключить результат, прямо противоположный ожидаемому. К сожалению, такой подход к делу не типичен для нынешнего Генерального прокурора республики. Иначе трудно объяснить, почему издаются приказы один абсурднее другого...

Во всех разумно устроенных державах ни один государственный орган не вторгается в законную деятельность другого, т.е. не допускается дублирование их функций, которое дезорганизует работу и ослабляет ответственность за ее итоги. Генеральный прокурор как будто не признает этого принципа, хотя он и заложен в наших законах.

Известно, что дела о восстановлении на работе и выселении рассматривает суд. Но В.Шолодонов, неизвестно из каких соображений, записал в своем приказе N 3 от 31.03.95 г.: "По делам о восстановлении на работе и выселении, со стадии подготовки дела к судебному разбирательству, принимать меры к оперативному устранению в досудебном порядке явных нарушений закона..."

Мне не известен закон, который предоставлял бы прокурору право (или обязывал его) вмешиваться в законную деятельность суда, параллельно с ним проводя расследование по гражданскому делу и воздействуя каким-либо образом на спорящие стороны. Такого закона нет и быть не может! Выполнение указания Генерального прокурора приведет только к тому, что людей затаскают по судам и прокуратурам, потому что теперь и судья, и прокурор, каждый сам по себе, будут выяснять обстоятельства предъявленных исков.

Закон предоставляет прокурору право (и даже обязывает его в некоторых случаях) принимать участие в разбирательстве гражданских дел и приносить протест на незаконное решение суда. Но закон никогда не требовал от прокурора ревизовать все гражданские дела, рассмотренные судом, поскольку это не имеет смысла.

Чтобы восполнить данный "пробел" в законодательстве, В.Шолодонов приказом N 13 от 31.08.93 г. потребовал от прокуроров "проверять в кассационный срок (10 дней после объявления решения. — **В.З.**) все гражданские дела, рассмотренные судом без участия прокурора". Что из этого получается, я расскажу позже, а сейчас о сути этой работы.

В 1993 году судами республики рассмотрено с вынесением решений более 84 тысяч гражданских дел. Из них по жалобам и протестам в кассационном и надзорном порядке пересмотрено лишь около 2,5%. Следовательно, даже если все неправосудные решения отменялись бы только по протестам прокуроров, то производительность проверок, о которых идет речь в приказе N 13, все равно не превышала бы 2,5%. Значит, остальная работа (97,5%) оказалась бы напрасной!

Есть тут и другие моменты профессионального характера, из которых вытекает, что прокуроры по объективным причинам не могут дать и 2,5% эффективности. В связи с этим 3 июня 1994 года я обратился к Генеральному прокурору с письмом, в котором убедительно изложил свою точку зрения. Но ответа не дождался. Взамен впервые за 58 лет жизни и 27 лет работы в прокуратуре получил выговор: дескать, знай, сверчок, свой шесток!

И все же мое письмо сыграло свою роль, правда, с ошеломляющим исходом. 31 марта 1995 года Шолодонов отменил свой прежний приказ и теперь уже обязал проверять только те дела, по которым поступили кассационные жалобы, а все другие — по усмотрению прокуроров. Вот уж чего я никак не ожидал!

Дело вот в чем. Процедура гражданского процесса такова, что если на решение суда поступила жалоба с уплатой пошлины или представлением документа об освобождении от ее уплаты, суд **безусловно** направит дело в вышестоящую судебную инстанцию на проверку. Прокурор, если он не принимал участия в деле, не может знать его обстоятельства лучше сторон в споре и их адвокатов. Поэтому ничего нового он в протесте и не напишет: просто продублирует жалобу. К тому же вышестоящий суд не связан доводами жалобы, как и протеста, и обязан проверить дело в полном объеме, выяснив у заинтересованных лиц все, чего, по их мнению, нет в деле или жалобе.

Теперь возникает вопрос: зачем Шолодонову нужно, чтобы прокуроры занимались пустой работой? Ответ прост, как правда. За всю историю прокуратуры исключительно по протестам (без дублирования жалоб) отменялась ничтожная доля ошибочных судебных решений. "Методом Шолодонова" намечено наращивать показатели по опротестованию судебных решений (что уже активно делается в Минске, Брестской и Гродненской областях) и демонстрировать эту "показуху" неосведомленным: смотрите, при нынешнем руководстве Прокуратурой республики "эффективность" работы неизмеримо возросла! То, что пользы при этом никакой, в расчет не принимается.

Следует сказать, что указанный метод не нов. В прежние времена он использовался некоторыми по инициативе снизу. "Верхи" стыдливо закрывали глаза: не пресекали, но и не рекламировали. Шолодонов первый возвел этот, по существу, обман в ранг государственной политики. В чем ему активно помогает некий В.Артюшенко, который пишет проекты приказов. Все премудрости, которые я перечислил, он черпает из приказов генеральных прокуроров многолетней давности — эпохи "строительства коммунизма".

У нас сейчас действуют законы о предприятии и о банкротстве, из которых следует, что государство (как и во всем мире) не несет ответственности за хозяйственную деятельность предприятий и обязано только обеспечить оптимальные условия для их экономического развития. Следовательно, об успехах в хозяйственной деятельности, в том числе и в возмещении материального ущерба, должны заботиться руководители предприятий, а не государство в лице прокурора. Генеральный прокурор считает иначе. Приказами N 13 от 31.08.93 г. и N 3 от 31.03.95 г. он обязывает нас, своих подчиненных, "добиваться привлечения каждого виновного в причинении ущерба к материальной ответственности". Если прокуроры станут добросовестно выполнять это указание, ничем иным они уже не смогут заниматься...

Давно известно, что деятельность, ошибочно направляемая, парализует самое себя. Требуя от прокуроров бессмысленной или несвойственной им работы, Генеральный лишает их возможности делать именно то, что сегодня необходимо: бескомпромиссно воевать с правовым беспределом там, где никто другой не может вмешаться.

Ни для кого не секрет, какие безобразия творятся при распределении жилья благодаря тому, что даже куцые возможности защиты прав граждан, допускаемые законом, не могут быть использованы. Ордер на квартиру, выданный с нарушением очередности или других правил, может быть признан недействительным только судом. Но суды (с подачи коллегии по гражданским делам Верховного суда) не принимают ни от прокурора, ни от граждан заявления, мотивируя это тем, что в конечном счете спор идет о распределении жилья, а такие споры по действующему закону суду неподведомственны. Но ведь перед судом никто и не ставит вопрос о распределении жилья. Выскажите свое мнение о правомерности выдачи ордера! Остальное сделают другие.

Свою лепту в произвол внес и пленум Верховного суда, который записал в постановлении еще в 1985 году, что лица (в т.ч. и прокурор), обратившиеся в суд с иском о признании ордера недействительным, обязаны указать жилое помещение, куда следует переселить незаконно занявшего квартиру, если он может быть выселен только с предоставлением другой жилплощади. Поскольку такое помещение в силах предоставить только тот, кто нарушил закон, то исход спора однозначен. Возникает вопрос: почему суд не хочет обязать нарушителя закона (исполком, например) предоставить другое жилое помещение? Ведь это, извините, проще пареной репы...

Именно Генеральный прокурор уже давно должен был поставить перед пленумом Верховного суда (а при необходимости и перед Конституционным судом) вопрос о соответствии "жилищной" позиции Верховного суда Конституции Республики Беларусь...

Уже пять лет галопирует инфляция, но и сегодня нет эффективного механизма индексации материального ущерба, взысканного судом в пользу граждан и юридических лиц. Предусмотренный действующим законодательством механизм неэффективен и почти не используется. В результате возмещается лишь ничтожная доля причиненного ущерба. 1 июня 1994 года этот вопрос ставился перед Генеральным прокурором, имеющим право законодательной инициативы, но в ответ получена отписка, учиненная его заместителем.

Я привел лишь некоторые факты только из одной отрасли прокурорского надзора. Если же проанализировать всю деятельность В.Шолодонова, то неизбежно придешь к единственному выводу: он не может организовать работу так, чтобы прокуратура стала органом, способным осуществлять от имени государства высший надзор за исполнением законов.

Такой уровень руководства приводит к тому, что кадрами прокуратуры все больше овладевают апатия и равнодушие, многие грамотные, честные, знающие свое дело люди уходят из прокуратуры или собираются уходить. Назревает невиданный в истории прокуратуры кризис ее деятельности.

ЮБІЛЕІ

## Доўгіх гадоў жыцця Вам, Стэфанія Міхайлаўна!

У камернай абстаноўцы, без гледачоў і лішняй пампезнасці прайшло 15 мая ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ўшанаванне народнай артысткі СССР Стэфаніі Міхайлаўны Станюты. Наладзіць вялікае свята з нагоды 90-гадовага юбілею актрысы перашкодзіла яе хвароба. Пасля цяжкай аперацыі яна стала адчуваць сябе значна лепш, але пакуль выйшла на родную сцэну толькі ў якасці імянінніцы.

Ад імя Прэзідэнта і ўрада рэспублікі Стэфанію Міхайлаўну павіншаваў намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Русакевіч. Ён зачытаў падпісаны Аляксандрам Лукашэнкам віншавальны адрас і ўручыў актрысе медаль Францыска Скарыны.

— Не выказаць усіх добрых слоў, якія Вы заслужылі за доўгія гады служэння мастацтву, — звярнуўся да Стэфаніі Міхайлаўны міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч. — Вы маеце шмат высокіх узнагарод, але ёсць самая галоўная — прызнанне гледачоў і Ваша любоў да людзей.

Старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў таксама быў немнагаслоўным і падняўся на сцэну, каб "соты, тысячны раз прызнацца ў любві" Стэфаніі Станюце. На што сама імянінніца з гумарам адказала: "Не баіцеся? Вельмі шмат сведкаў..." Уручыўшы кветкі і падарункі, Аляксей Дудараў заўважыў, што калі б усе жанчыны былі такімі, то свет даўно б забыў аб войнах і іншых чалавечых разладах. Не абышлі ўвагай любімую актрысу і ўдзельнікі трэцяга Міжнароднага фестывалю тэатраў лялек, прадстаўнікі прафсаюзаў рэспублікі, прадпрымальнікі. З цеплынёй адгукнулася на знамянальную дату ў жыцці актрысы трупа Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Не скупіліся на віншаванні і самі купалаўцы.

— Я так расхвалявалася, што проста не магу гаварыць, проста сэрца сціскаецца. Я люблю людзей, — сказала Стэфанія Міхайлаўна і заплакала. — Я кожны вечар малюся і прашу ўсемагутнага Бога, каб ён даў мне магчымасць сыграць яшчэ хоць некалькі спектакляў. Жадаю ўсім артыстам маладосці і так адчуваць народ, гледачоў, як я. Выказваю падзяку ўсяму беларускаму народу і шчыра жадаю, каб наша мастацтва праслаўлялася на ўвесь свет. Усё можна перажыць, самыя вялікія цяжкасці. Трэба толькі кожнаму быць сапраўдным чалавекам у вышэйшым сэнсе гэтага слова, верыць у праўду, справядлівасць, прыгажосць.

Аура дабрыні і чалавечнасці, якая пастаянна акружае гэту вялікую жанчыну, распаўсюджваецца на ўсіх, каму выпадае быць побач з ёй, атрымліваць асалоду ад яе таленту актрысы. І хочацца верыць, што яшчэ не раз адкрыецца заслона і Стэфанія Станюта выйдзе на сцэну пад апладысменты гледачоў у адной са сваіх роляў. І падорыць шчасце дакрануцца да высокага мастацтва. Здароўя Вам і ўсяго самага найлепшага, дарагая Стэфанія Міхайлаўна!

**Віктар КУКЛОЎ, Белінфарм.**

Улыбнемся с художником!

ТЫ ЗАБЫЛ, ЧТО Я ТЕПЕРЬ ДЕПУТАТ И У МЕНЯ ДЕПУТАТСКАЯ НЕПРИКОСНОВЕННОСТЬ!..

15 МАЙ

НЕОБХОДИМО ОТВЛЕЧЬ НАРОД ОТ ПОЛИТИКИ...

Рисунки Олега ПОПОВА.



Меркаванне

## Гучаў славуты паланез...

**Лявон КАЛЯДЗІНСКІ, дацэнт БДПУ**

Аднойчы ў касцёле Св.Роха, што на Залатой Горцы ў Мінску, у выкананні прафесара Ігара Алоўнікава давялося паслухаць творы Міхала Клеафаса Агінскага на канцэрце з нагоды ягоных 230-х угодкаў. Гучаў славуты паланез "Развітанне з Радзімай". З якім зачараваннем уся зала слухала гэтыя велічныя гукі, дзе, бадай, як у кроплі расы, адлюстраваны пакутлівы шлях нашага народа. Тут і лірыка беларускай душы, і драматызм нашага лёсу, і заклік да барацьбы. "Быць бы яму гімнам!" — думаў я пра гэтую мелодыю каторы ўжо раз.

Скажу шчыра, не толькі адзін я думаю так. Выступалі з гэтай прапановай у друку і іншыя людзі . Але іхнія меркаванні адразу ж спыняліся. Казалі: "Ну, гэта, па-першае, польскі (?) твор, суседзі пакрыўдзяцца. Па-другое, тут развітанне з Радзімай, а нам трэба, каб штосьці вітала яе. І па-трэцяе, гэта ж паланез! Дык што, нам пад яго танчыць?"

Дазволю сабе прывесці некалькі аргументаў у абарону сваёй прапановы. Па-першае, сам Міхал Клеафас Агінскі **ніколі** не лічыў сябе палякам, што і падкрэсліваў у сваіх мемуарах неаднаразова, быў прыхільнікам незалежнасці Вялікага княства Літоўскага (г.зн. і Беларусі) і мусіў у меру сваіх сіл змагацца за гэтую ідэю. Развітанне з Радзімай? Дык гэта толькі аўтарская назва твора. А мы можам славіць нашу Радзіму гэтым высакакласным творам, узрост якога больш за 200 гадоў! І па-трэцяе. Нагадаю, што першым расійскім гімнам быў таксама святочны паланез "Гром победы, раздавайся!", напісаны з нагоды захопу рускімі войскамі крэпасці Ізмаіл. Аўтар гэтага твора — наш зямляк Восіп Казлоўскі, дарэчы, настаўнік Міхала Клеафаса Агінскага. А колішні гімн Польшчы — мазурка Дамброўскага? І ніхто ні з паноў тых краін, ні з простага люду не пускаўся ў скокі пад гэтыя гімны!

Трывога!

## Чаму цягнікі ідуць "пад адхон", а чыгуначнікі — на той свет

**Віктар ЖЫГОЦКІ**

На вочы трапіла зводка аб парушэннях працоўнай дысцыпліны ў Мінскім аддзяленні Беларускай чыгункі. Пасля знаёмства з ім не пакідае трывога: якой жа рызыцы падвяргаюць нас, пасажыраў чыгуначнага транспарту, работнікі названай галіны. А ў дадатак яшчэ губяць і сябе.

Прывяду некалькі прыкладаў. Напрыклад, дзяжурная па станцыі Смалявічы заўважыла, што не пераводзіцца стрэлачны з'езд. Як і патрабуюць таго службовыя абавязкі, яна паведаміла пра непаладку па інстанцыі. Усё ішло як належыць да таго часу, пакуль не з'явіўся на парозе "дзяжуркі" дарожны майстар Зосім. Быў ён, скажам так, не зусім цвярозым.

Але гэтая акалічнасць не перашкодзіла службовым асобам адправіць майстра на ліквідацыю непаладкі. Апроч таго, быў парушаны таксама ледзь не дзесятак пунктаў правілаў тэхнікі бяспекі і работа з сігналізацыяй, сувяззю і вылічальнай тэхнікай.

Вынік сумны. Чалавек загінуў. Крушэнне саставу па выпадковаму збегу абставін не адбылося.

Летась смяротна траўміраваны манцёр Маладзечанскай дыстанцыі пуці Сак. Замест таго, каб рабіць абход участка, ён завярнуў "у краму". А пасля лёг адпачываць каля рэек. І хаця машыніст цягніка заўважыў "пабочную рэч", было позна.

У некалькіх выпадках беларускія чыгуначнікі зажыва згарэлі пры суправаджэнні рэфрыжэратарных секцый. Зноў жа з-за п'янкі, п'янкі, п'янкі... У дадатак гэтыя "спецыялісты" падвяргалі рызыцы жыцці соцень і тысяч іншых людзей. Якую ж адказнасць яны панеслі?

П'янаму стрэлачніку, у горшым выпадку, здымаюць прэмію. Яго непасрэднаму начальніку — "ставяць на від". Кіраўніку больш высокага рангу — указваюць на ўпушчэнні ў рабоце па кіраўніцтву гаспадаркай.

Чым не анекдатычны наступны прыклад. Два "гора-майстры" рамантавалі стрэлачны з'езд. Абодва ледзьве стаялі на нагах. Калі наблізіўся цягнік, сталі адыходзіць. Але адзін з "пуцейцаў" паслізнуўся і... вядомая рэч — імгненная смерць.

Другому за "з'яўленне на рабоце ў нецвярозым стане" далі вымову і перанеслі адпачынак на снежань.

Больш ніякіх "разборак".

Ці можна пасля гэтага спакойна ехаць у поездзе?

# Теле-скопом!

## Мини-рецензии на передачи Белорусского телевидения с 8 по 14 мая

**1. Лучшая передача прошлой недели?**
**2. Худшая передача прошлой недели?**
**3. Человек недели на БТ?**

**Нина ФРОЛЬЦОВА, доцент кафедры телевидения и радио Белгосуниверситета, член Союза кинематографистов Республики Беларусь:**

1. Прямые трансляции с массовых праздников и торжеств 8 и 9 мая (режиссер трансляции с "Динамо" — Наталья Сидельникова). Имея в виду, что таких мероприятий в республике не было лет пять, можно сказать, что телевидение на этих "живых" событиях показало, что владеет ремеслом, которое, к счастью, еще не совсем "выпало" из их рук.

Хочу отметить новую программу "Четвертое измерение". Замысел прекрасный. Жаль, что транслируется она только днем, а на вечер у нас, как всегда, — масскульт.

2. Фильм "Ненависть". Художественно не завершенное произведение. Кажется, в общественно-политическом вещании у нас появился новый жанр — политический видеоклип. Понятно, что пропагандистский механизм всегда был и будет, но когда он способен только на лобовые удары, то вспоминаешь традиции тоталитарной телепублицистики.

3. Спортивный комментатор Элеонора Хоровец.

**Раиса БОРОВИКОВА, поэт, лауреат Государственной премии Республики Беларусь:**

1. Авторский концерт композитора Сергея КОРТЕСА.

2. Меня очень опечалили наши детские передачи. Неэстетично, балаганно, ни уму, ни сердцу, ни разуму.

3. Александр Лукашенко — больше всего эфирного времени было отведено Президенту.

**Михаил ПТАШУК, режиссер, народный артист Республики Беларусь, лауреат Государственной премии Республики Беларусь:**

1. "Проспект" — прощальный выпуск, вернее, повтор субботнего вещания. Факт исчезновения этой передачи возмутителен.

2. Видеофильм "Ненависть". Мне кажется, Президент в преддверии референдума не должен был показывать этот фильм и его имидж вырос бы еще больше. Фильм не стабилизирует общество, расслаивает его. Очень сожалею, что в создании фильма участвовал актер Гостюхин, который снимался в моих фильмах. Не стоит актеру влезать в политические игры...

3. Человек недели на БТ — это наш народ, который с энтузиазмом участвовал в празднествах, посвященных юбилею Победы.

**Леонид ЩЕМЕЛЕВ, народный художник Республики Беларусь, лауреат Государственной премии Республики Беларусь:**

1. Я не смог выбрать лучшую передачу, на мой взгляд, таковой просто не было.

2. Фильм "Ненависть". Грязная фальсификация, очень необъективно и тенденциозно. Можно выражать любые политические взгляды, но зачем же так злобно?

3. Президент.

**Фото Марии ЖИЛИНСКОЙ.**

